50-ГОДДЗЕ ВЯЛІКАЙ ПЕРАМОГІ

# ГЕНАДЗЬ ЛАГУНОВІЧ: «ГЭТА Ў СЭРЦЫ БЫЛО МАІМ»

**З трапятаннем трымаю ў руках сапраўдны экземпляр «Маскоўскіх ведамасцяў» за 1791 год, баючыся зрабіць хаця б адзін лішні рух — да таго старое гэта выданне!**

**А вось «Северная пчела» 1891 года выдання, «Литературная газета» за 1842 год, першая легальная бальшавіцкая газета «Новае жыццё» (год выдання 1905–ы), у якой прымаў удзел Максім Горкі, тут жа — «Эхо», «Борьба», «Вперед». Нумар «Известий» за 27 кастрычніка 1917–га — першыя ленінскія дэкрэты. Перагортваючы газетныя старонкі тых часоў, заўважаеш, што Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя трактавалася напачатку ва ўсіх выданнях — у тым ліку і бальшавіцкіх — не інакш, як пераваротам...**

**Адкрываю наступную папку — і ў вочы кідаецца роднае слова — «Наша ніва» за 1912 год, «Вольная Беларусь» — за 1918–ы... Увагу прыцягвае першая савецкая беларуская газета «Дзянніца», у якой паведамляецца аб абвяшчэнні БССР, друкуецца склад першага беларускага ўрада.**

**З болем у сэрцы пачынаю гартаць выданні 37–га года... Нумар «Известий» за 24 студзеня, злавесная «шапка» — «Изменники Родины, лакеи фашизма, подлые реставраторы капитализма» — гэта аб працэсе так званага антысавецкага трацкісцкага цэнтра. І цэнтральныя, і мясцовыя выданні стракацяць прыкладна аднымі і тымі ж загалоўкамі — «Беспощадно уничтожим гнусных врагов», «Расстрелять озверевших троцкистских бандитов», «Сталин — наш мозг, наше сердце, наша душа. Удесятерим бдительность — заявляют миллионы трудящихся!»... «Удесятерялі» — і ад імя гэтых самых працоўных пачварная сталінская машына бязлітасна ператрушчвала лёсы мільёнаў бязвінных ахвяраў.**

**На вочы трапляе «Піянер Беларусі» за 3 сакавіка 37–га года. Рэзалюцыя школьнікаў на мітынгу: «Мы, рабяты гурткоў Палаца піянераў і акцябрат патрабуем пакараць ворага народа...»**

**Нарэшце, газеты ваеннага часу — партызанскія і падпольныя — «Звязда», «Сталінскі шлях», «Молодой мститель» і многія, многія іншыя, ад якіх і праз 50 гадоў патыхае полымем гневу і барацьбы...**

**Выданні такой даўніны сталі ў наш час ужо рэліквіямі. І знайсці іх сёння можна хіба толькі ў архівах. А вось аўтару гэтай публікацыі пашчасціла пазнаёміцца з унікальнай калекцыяй мінчаніна Генадзя Лагуновіча. Уявіце сабе: у гэтага чалавека захоўваецца каля 18 тысяч найменняў газет (ад цэнтральных — да шматтыражных), якія выходзілі і працягваюць выходзіць на ўсіх абсягах СССР. У тым ліку — звыш пяцісот дарэвалюцыйных, тры тысячы — даваенных, звыш тысячы — замежных, а таксама газеты з усімі асноўнымі падзеямі, што адбываліся, пачынаючы з 1917–га года да дзён сённяшніх.**

Ведаючы пра такі бясцэнны скарб, мы звярнуліся да Генадзя Пятровіча з просьбай зрабіць напярэдадні Вялікай Перамогі для «Добрага вечара» сціслыя вытрымкі з газет ваеннага ліхалецця, каб аднавіць у людской памяці тыя трагічныя часы. А потым стала зразумелым: абавязкова трэба расказаць і аб гэтым надзвычай цікавым, неардынарным чалавеку — бо лёс унікальнай калекцыі цесна пераплецены з лёсам самога Лагуновіча: старога салдата, газетчыка, шчырага патрыёта сваёй Бацькаўшчыны.

...Мы сядзім з Генадзем Пятровічам у яго ўтульнай кватэры, беражліва гартаем старыя падшыўкі, і я з цікавасцю слухаю споведзь гэтага не па гадах жывога, энергічнага і няўрымслівага чалавека:

-- Маё захапленне пачалося з дзяцінства, у 30-ыя гады. Чытаць я навучыўся па загалоўках газетных матэрыялаў, увесь час спрабуючы ўцяміць: чым гэта яны, бы магніт, прыцягваюць дарослых? Далей — болей. Аднагодкі ганяюць мячык, а я штодзень, у любое надвор'е, да кіёску... Можна сказаць, з газетай у руках і гадаваўся. Ведаеце, свята верыў кожнаму надрукаванаму слову! Сталіна, якога тады газеты ўсхвалялі на ўсе лады, лічыў Богам, які толькі і робіць, што клапоціцца аб нас (сёння гэта ўспамінаецца з горкай усмешкай!). Зачытваў газеты да дзірак, а потым употай складваў іх у свой куфэрак...

Гэтыя выданні ўцалеюць і падчас акупацыі Оршы. Сям'я Лагуновічаў вымушана будзе эвакуіравацца, але Генадзю ўдасца закапаць даваенныя газеты разам з іншымі хатнімі рэчамі ў зямлю, дзе яны праляжаць доўгі час... Напярэдзе быў цяжкі шлях на ўсход — да Мурама. Там Лагуновіч з такой хлапечай нецярплівасцю будзе чакаць прызыву на фронт. Але дзянькі марна не зводзіў, штодзень дапамагаючы маці, што рабіла паштаркай, разносіць па вясковых хатах газеты. З прагнасцю накідваецца на франтавыя зводкі, з болем у сэрцы ўспрымаючы адступленне савецкага войска і радуючыся яго чарговай перамозе... А «праглынуўшы» газету ад коркі да коркі, беражліва хавае яе ў скрыню.

Аднаго дня ў рукі трапіла брашура вершаў, сярод якіх быў і верш Максіма Танка «На бой, моладзь Беларусі!». Цэлы шквал пачуццяў выклікаў ён у душы Генадзя, які тут жа, бы віхор, памчаўся ў ваенкамат: мяне, маўляў, клічуць... Прашу адправіць на фронт.

Але ў бой Лагуновічу давялося ісці толькі ў верасні 44-га, калі полымя вайны перакінулася на тэрыторыю Польшчы і пакацілася далей на Захад. Да гэтага часу ён пройдзе праз ваеннае вучылішча і, апрануўшы форму малодшага лейтэнанта, атрымае прызначэнне ў штаб палка. Але ён не супакоіцца і ў які раз зноў запатрабуе сваёй адпраўкі на перадавую. І быццам камень з сэрца спадзе, калі яго рапарт, урэшце, задаволяць.

**На долю Лагуновіча выпадуць усе цяжкасці суровых франтавых будняў: падымаў у атаку ўзвод, штурмаваў варожыя доты, абараняўся да апошняга патрона ад насядаўшага ворага. Двойчы яму толькі цудам удалося ўратавацца ад шквальнага агню.**

На перадавой Генадзь змагаўся не толькі з аўтаматам у руках, але і з блакнотам. Падчас кароткай перадышкі ён прама ў акопе пісаў невялікія заметкі для дывізійнай газеты «В бой за Родину».

...З фронта Генадзь Лагуновіч вернецца не толькі з ордэнам Чырвонай Зоркі і іншымі ўзнагародамі на грудзях, але і з ладным стосам армейскіх выданняў, якія яшчэ не астылі ад гарачага пораху. І калі ўявіць, колькі давялося павандраваць гэтым франтавым рэліквіям па ваенных сцежках у палявой сумцы іх уладальніка, адчуваеш, што кошт іх проста невымерны...

-- Газеты ваеннага ліхалецця асабліва дарагія майму сэрцу, — распавядае далей Генадзь Пятровіч. — І не толькі таму, што я сам змагаўся за нашу свабоду, але і таму, што дыктаваліся тыя газетныя радкі па гарачых слядах чарговага бою, несучы аператыўную інфармацыю аб тым, што адбываецца на перадовай, у тыле. Яны мабілізоўвалі волю, моц людзей, аб'ядноўвалі іх дзеля хуткай перамогі.

А чыталі мы іх прама ў акопах, на перадавой, у хвіліны зацішша...

-- Вось глядзіце, — Генадзь Пятровіч працягвае франтавую газету «Вести из Москвы» 44-га года выдання, надрукаваную на ...шпалерах, і тлумачыць:

-- Партызаны прымалі па радыё весткі і друкавалі вось такую газету... Ну, а гэтую вам наўрад ці даводзілася бачыць, — гаворыць ён і дастае з папкі «Праўду». Заўважыўшы маё здзіўленне, дадае:

-- «Праўда» як «Праўда», ці не так? Але ж на самай справе гэта — фашысцкая падробка, што распаўсюджвалася на акупаванай тэрыторыі, каб дэзінфармаваць насельніцтва.

Уздыхнуўшы, Генадзь Пятровіч зазначае:

-- Вось гартаю гэтыя падшыўкі — і бы зноў надоечы фарсірую Віслу, Одэр, вызваляю польскую зямлю ад фашыстаў. Не гояцца раны... Такой цаной заплацілі за гэтую перамогу! Не давядзі Бог, каб такое зноў паўтарылася...

**Пасля вайны ўсё пайшло ў Лагуновіча сваім ладам: не здымаючы вайсковай формы, завочна закончыў факультэт журналістыкі БДУ, працаваў у армейскім друку, шматтыражнай газеце «Автозаводец»... Калекцыя тым часам усё папаўнялася. Не шкадуючы сіл і часу, ды і сродкаў, Лагуновіч «калясіў» па рэгіёнах былога Саюза. Абменьваўся выданнямі з калекцыянерамі, а то і проста купляў старыя выданні па нечуванай цане. Праўда, апошнім часам Генадзь, як заўважыла яго жонка, Валянціна, усё ж утаймаваўся. І крыху, як кажуць, збавіў абароты, бо ў кватэры стала ўжо цеснавата ад шматлікіх стэлажоў.**

А гаспадар тым часам знаёміць далей са сваёй калекцыяй. З гонарам расказвае аб газеце «Известия» (спецвыпуску для экіпажа «Салют»), што пабывала ў космасе, дэманструе «Пластическую газету», зробленую з нагоды міжнароднай выставы, што адбылася ў Маскве ў 1965 годзе. Газета выраблялася, дарэчы, у Галандыі. Сярод рэдкіх экспанатаў — і газета, надрукаваная на матэрыі, цалкам вышываная — «Электрозаводская газета» за 1931 год.

Не ведаю, колькі патрэбна часу, каб дэталёва пазнаёміцца з усёй калекцыяй, пэўна, не хопіць і года. Любое выданне, якое бярэш у рукі, заслугоўвае асобнай грунтоўнай гутаркі, бо яно міжволі цябе пераносіць зусім у іншыя эпохі...

Бы прачытаўшы мае думкі, Генадзь Пятровіч раптам зазначае:

-- Ведаеце, неспакойны гэта занятак для розуму і сэрца — чытанне старых газет. Асабліва балюча гэта ўспрымаецца сёння, калі мы ведаем, у якім скажоным выглядзе паўстаюць з іх старонак многія суровыя і трагічныя эпізоды нашай гісторыі...

**Пад націскам праўды многае давялося пераасэнсаваць на схіле веку і самому Лагуновічу. Няпроста, часам вельмі балюча адбываліся змяненні ў яго светапоглядзе. Ды і хіба магло быць інакш? — задае ён пытанне, калі дзесяцігоддзямі нам убівалі ў галаву, што, напрыклад, партыя — розум і сумленне нашае эпохі. А зараз мы ж ведаем, што на сумленні той самай КПСС — кроў мільёнаў.**

**-- А ўвогуле, — дадае Генадзь Пятровіч, — у кожнага павінна быць свая галава на плячах. Чалавек павінен сам усё узважваць, супастаўляць, абдумваць і рабіць адпаведныя высновы. Я іх зрабіў для сябе: зараз усім нам трэба, як у цяжкую ваенную гадзіну, аб'яднацца на глебе нацыянальнай ідэі і спрыяць рашучым пераўтварэнням ва ўсіх сферах нашага жыцця. Перакананы: шлях да лепшай долі беларусаў ляжыць толькі праз умацаванне сваёй дзяржаўнасці і суверэнітэту...**

**І крыўдна яму, Лагуновічу, калі тыя афіцыйныя ветэраны, што засядаюць у сценах парламента, ці якіх адбіраюць для сустрэч з вышэйшымі кіраўнікамі, спрабуюць выдаваць свой асабісты пункт погляду за пазіцыю ўсіх астатніх удзельнікаў Вялікай Айчыннай. Бо далёка не ўсе ветэраны пагаджаюцца з тым, каб беларусы выракліся сваёй мовы, культуры, адмовіліся ад сваіх спрадвечных нацыянальных сімвалаў і святыняў.**

**У шэрагу такіх ветэранаў — з дэмакратычнымі арыенцірамі і гатовых яшчэ паслужыць дзеля адраджэння сваёй роднай Беларусі — і Генадзь Лагуновіч, за плячыма якога нялёгкі, але цвёрды жыццёвы шлях.**

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, «ДВ».**

*З наступнага нумара мы пачынаем разам з вамі, паважаныя чытачы, гартаць старыя падшыўкі газет з асабістага архіва Генадзя Лагуновіча — з першага да апошняга дня Вялікай Айчыннай вайны.*

НАВУКА

# ПАПАЎНЕННЕ З ЗАМЕЖЖА

На агульным сходзе нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, што адбыўся на мінулым тыдні, яе сапраўднымі членамі абраны беларускія навукоўцы, якія маюць акадэмічныя званні ў галіновых акадэміях навук былога СССР. Сход прыняў таксама папраўку да Статута, згодна з якой усе вышэйшыя пасады ў прэзідыуме, за выключэннем прэзідэнта Акадэміі, могуць займаць не толькі акадэмікі, але і члены-карэспандэнты. Рэалізацыя гэтага палажэння, на думку навукоўцаў, на практыцы будзе садзейнічаць дэмакратызацыі акадэмічнай навукі і «амаладжванню» яе кіраўніцтва. Новымі замежнымі членамі аднагалосна абраны вядомыя навукоўцы, сярод якіх тры нобелеўскія лаўрэаты: расійскія акадэмікі Жорэс Алфёраў (фізіка), Мікалай Басаў (тэарэтычная і эксперыментальная фізіка), Валянцін Капцюг (хімія), Аляксандр Прохараў (тэарэтычная і эксперыментальная фізіка), Вячаслаў Сцёпін (філасофія), Мікалай Талстой (мовазнаўства) і Канстанцін Фралоў (механіка, машынабудаванне); украінскія акадэмікі Леанід Навічэнка (літаратуразнаўства) і Барыс Патон (металургія, тэхналогія і зварка металу); польскія акадэмікі Рамуальд Кляхоўскі (экалогія) і Базыль Чачура (мікалогія); бельгійскі акадэмік Ілья Прыгожын (тэрмадынаміка).

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.**

СЛУЖБА ПСИХОЛОГА

# ПОЧЕМУ ДЕТИ ЛГУТ?

*«Буду сидеть в одуванчиках, а потом они забудут про эту историю — и я вылезу», — решил Незнайка.*

**Признайтесь, вы обманывали своих родителей? Сейчас, вспоминая свои проступки, ищете оправдания им: в солидном возрасте многое ложью не назовешь. Но ведь именно в детстве люди постигают азы науки жизни, а, значит, и лгать они учатся в детстве... Как–то незаметно непосредственность может превратиться в хитрость, и обеспокоенные папы и мамы вдруг обнаружат, что обожаемое чадо научилось «водить за нос» не только их самих, но и воспитательницу в саду, соседку и (проще простого!) старенькую бабушку. Так почему же дети лгут? Николай Носов, автор сказки «Приключения Незнайки и его друзей», рассуждает о поступке маленького обманщика так: «Ведь вы добрый, хороший малыш. Вам хотелось казаться лучше, поэтому вы стали хвастаться и обманывать нас». А как объясняют ложь из уст детей специалисты? Внештатный корреспондент «Добрага вечара» Наталья ВЛАСЮК беседует с психологом минского Дворца детей и молодежи Светланой Аркадьевной БЕРГЕР.**

**— Светлана Аркадьевна, может показаться, что дети лгут только для того, чтобы избежать наказания или стыда. Но, возможно, существуют другие причины, и их не так–то легко обнаружить?**

-- Вы совершенно правы. Дети боятся наказания за разбитую чашку, промокшие ноги, испачканную одежду и начинают придумывать истории-оправдания, либо просто не рассказывают маме о том, что произошло. Появляется вопрос: детская ложь — это плохо или хорошо? Нужно ли что-то предпринимать, если ребенок начинает обманывать вас? Детская ложь — это отвратительно, как и любая другая. Но ее причины, ее корни надо искать не в детях, а в самих себе. Вспомните свое детство. В нем разве не было разбитой посуды, вырванных «с мясом» пуговиц, разбитых по дороге из магазина бутылок с молоком? И если подобное «ужасное происшествие» вызывает у вас гнев и возмущение, задумайтесь, достаточно ли вы любите своего ребенка, чтобы понять: промокшие после сильного дождя ноги или каша, которую он не съел и запрятал в кухонный шкафчик, — это не вам назло. Просто ваш ребенок еще маленький. Ему интересно испробовать прочность новых сапог и совсем не хочется есть кашу-размазню.

Другая причина лжи — потребность в самоутверждении. Любому ребенку необходимо признание его достоинств, как, впрочем, и всем нам, независимо от возраста. Каждый должен постоянно получать знаки внимания, любви, уважения. Иначе возникает чувство дискомфорта. Если ребенок не так хорошо учится, как его родителям хотелось бы, не добивается больших результатов в спорте, если у него нет модной одежды, магнитофона, компьютера и т.д., — обостряется чувство неполноценности. И маленький человек уходит в мир фантазии: придумывает для значимых людей победы в соревнованиях, дневник, полный «пятерок», сильного брата, папу-бизнесмена. Как тут быть? Помочь ребенку найти себя не в фантазиях, а реально. У вашего сына или дочери обязательно есть какие-то способности, и помочь развить их — ваша обязанность, ваш долг. Иначе чувство неполноценности сохранится на всю жизнь. И ладно, если этот комплекс отразится только на жизни семьи вашего ребенка. Но если ваш сын или дочь сделают карьеру, их чувство будет мешать жить всему коллективу, иногда очень большому. Хотя надо уточнить причину комплекса не только и не столько в отсутствии материальных благ, а прежде всего в недостатке любви, взаимопонимания, уважения.

*Н.Носов: «Вы ведь знали, что он врет да хвастает, и никто не остановил его. Никто не сказал ему, что это нехорошо. Чем же вы лучше?»*

**— Мне кажется, сейчас редко встретишь семью, где у непорядочных родителей сын или дочь вырастают честными людьми. Бывает как раз наоборот... Интересно, в каком возрасте ребенок начинает понимать, что лгать плохо?**

— С началом формирования сознания, то есть после трех лет. Думаю, что среди своих взрослых знакомых вы найдете немало таких, кто не считает зазорным говорить не то, что думает и чувствует, а то, что выгодно в данный момент. Причем, лгут такие люди в различных ситуациях: и в личной жизни, и на службе. И как бы они ни пытались объяснить своим детям, что обманывать нехорошо, те им не поверят. И вырастут такими же лгунами, не понимая, что существуют иные отношения между людьми: искренние, естественные, без недомолвок и подслушиваний...

**-- А если ребенок о чем–либо умалчивает?..**

-- Значит, боится, что его не поймут. Если ваш сын получил двойку и не говорит вам об этом, а может еще и страницу из дневника вырвать, наверняка он боится суровых родительских глаз. Попытайтесь решить, что для вас важнее: взаимопонимание с сыном, его душевное спокойствие или цифирки, стоящие в классном журнале. А если вы хотите, чтобы ваше чадо училось лучше, чем вы когда-то в школе, то наказание за плохие отметки — далеко не лучший способ их избежать. В первую очередь надо выяснять причину: если ребенок просто не выучил урок, то почему? Его перегружают домашней работой, он плохо чувствует себя, не видит смысла в школьном учении? Соответственно, и выход из этого: обеспечить возможность готовиться к урокам, дать отдохнуть, подлечить, если необходимо. Если его не устраивает школа — перевести в другую, специализированную, соответствующую его интересам и желаниям. Хорошо бы предварительно узнать, работают ли в новой школе педагоги, способные заинтересовать учебой. Таких, к сожалению, сейчас немного.

Но если проблемы неуспеваемости более серьезны, найдите хорошего психолога-специалиста. Смысл всего сказанного в том, что если поведение ребенка не соответствует вашим представлениям о нем, чего бы это ни касалось: учебы, работы по дому, общения с разными людьми, — задумайтесь, прежде чем наказать. И самое главное: во взаимоотношениях отцов и детей прав всегда ребенок и не правы родители. Заметьте, родители требуют, чтобы дети смотрели на мир их глазами, жили их ценностями, забывая при этом: дети, как правило, на 20, 30, а то и 40 лет моложе, т.е. родились в другое время. У нового поколения могут быть совершенно иные взгляды на жизнь, иные ценности. У вашего ребенка темперамент и характер могут сильно отличаться от ваших. К тому же, нет достаточного жизненного опыта и умения противостоять трудностям.

Ошибок в этой жизни не удалось избежать ни одному человеку.

*Н.Носов: «Он обозлится и начнет вести себя еще хуже. Если же его пожалеть, то он сильнее почувствует свою вину и скорее исправится».*

**— Тогда возникает вопрос: стоит ли вообще наказывать детей? Тем более, самый распространенный способ «исправления» — порка — хоть и передавался «из поколения в поколение», не превратил ни одного шкодника и лгунишку в ангелочка.**

-- Я вовсе не ратую за полную безответственность. Наказание обязательно должно присутствовать в воспитании ребенка, но оно должно, во-первых, соответствовать проступку, во-вторых, следовать непосредственно за ним, дабы ребенок знал, за что его наказывают. Физическое наказание воспитывает раба. Боль унижает человека, подавляя и уничтожая самые лучшие стороны его натуры. Доводы же о том, что и меня в детстве били, и ничего — вырос и добром отца-матушку вспоминаю, могут вызвать лишь вопросы: «Вы счастливы? Довольны своей жизнью? Сумели ли вы добиться того, чего хотели, и желаете ли вы такой судьбы своему ребенку?»

Вообще, задача родителя как раз в том, чтобы помочь детям избежать ошибок, вместе находить выход из трудной ситуации. Если ваш двенадцатилетний сын говорит, что пошел к товарищу готовить уроки, а сам отправился в зал компьютерных игр, да еще забыл забрать из детсада младшего братишку, подумайте, сформировано ли у него чувство ответственности. Задумайтесь, сумели ли вы своим воспитанием добиться того, чтобы ваш ребенок отвечал за свои действия. И если он постоянно поступает не так, как вам хотелось бы, как вы представляете, — понимаете ли вы, как надо воздействовать на него, именно на вашего ребенка, со всеми его особенностями? И если вы чувствуете, что между вами и вашими детьми не всегда есть полное взаимопонимание, если видите, что ваши попытки найти общий язык с сыном или дочерью безрезультатны — обратитесь к специалисту. Психолог поможет вам понять, что вы делаете не так.

*Н.Носов: «Он провинился и за это наказан. Но теперь он раскаялся и будет вести себя хорошо».*

**— Как должны относиться взрослые ко лжи с целью защиты товарищей? Ведь слово «доносчик» нас тоже пугает...**

-- Сам по себе обман может и не быть злом: возможно, зло скрывается в причине, которая эту ложь вызвала. Если человек обманывает с целью защиты другого (при условии, что тот не совершил преступления или иного неблаговидного поступка), что же в этом плохого? Ну, а что касается покрывательства... Тут ваша задача — научить ребенка различать добро и зло и самостоятельно делать нравственный выбор. И для этого самому надо быть цельным человеком. Иначе все ваши нерешенные проблемы камнем лягут на души ваших детей и не позволят им гармонично жить в этом мире. Научиться различать добро и зло — научиться нравственно жить. Прийти к пониманию того, как надо поступать, можно разными путями: через религию, философию, психологию... Попытайтесь чаще смотреть на мир глазами вашего ребенка, слышать его ушами, чувствовать так же, как чувствует он. Смею вас уверить: понимать друг друга вы станете намного лучше. И необходимость врать будет появляться реже, т.е., говоря языком математики, взаимопонимание близких людей и количество лжи между ними обратно пропорциональны.

*Н.Носов: «Теперь вы постараетесь быть честным, смелым и умным, будете совершать хорошие поступки, и вам не придется больше выдумывать, чтобы казаться лучше. Правда?»*

«ДВ» ПРЕДСТАВЛЯЕТ

## НА ЭКРАНЕ — ВЕЛИКАЯ ОТЕЧЕСТВЕННАЯ

С волнением смотрится цветная художественная кинокартина «Они сражались за Родину», созданная режиссером Сергеем Бондарчуком на киностудии «Мосфильм» по своему сценарию.

...Небольшое стрелковое подразделение под командованием капитана Сумского получило приказ: в условиях массированного удара вражеской авиации и артиллерии обеспечить переправу через Дон советских воинских частей. Четыре дня проведем мы с героями фильма, с людьми самых разнообразных мирных профессий: Николай Стрельцов — агроном, Петр Лопахин — шахтер, Иван Звягинцев — комбайнер. Да разве перечислишь всех... Война заставила их надеть шинели. Война сделала их солдатами. Ярко и правдиво в картине показаны психология солдата, его внутренний мир, его мужание и закалка в суровых испытаниях войны.

В картине занято целое созвездие популярных киноактеров — Василий Шукшин, Вячеслав Тихонов, Сергей Бондарчук, Георгий Бурков, Юрий Никулин, Иван Лапиков, Николай Губенко, Андрей Ростоцкий, Ирина Скобцева...

## «СЛАДКАЯ ПАРОЧКА»

Производство США. Режиссер — Джерри Риз.

Картина полна самых неожиданных, интригующих и забавных сюрпризов, которые сплошь и рядом встречаются на пути главных героев. Да герои-то и сами будто сюрпризы для зрителя. Очаровательная и прелестная «звезда» Голливуда Ким Бейссинджер впервые встречается в этой картине с Алексом Болдуином. Теперь это известная в Голливуде «сладкая парочка».

В центре киноповествования — история главного героя Чарли, короля зубной пасты, который вот-вот должен жениться на Адель, дочери известного кинематографического босса. Но увы...

В общем — сюрпризы, сюрпризы, сюрпризы.

## «НОКТЮРН ДЛЯ БАРАБАНА С ОРКЕСТРОМ»

Эта новая работа кинематографистов России. Фильм поставила по своему сценарию режиссер Каринэ Фолиянц.

В картине есть все для легкого успеха: загадочная завязка, загадочная героиня, напряженный сюжет, молодежная тематика, криминал и музыка.

...В родную Москву приезжает молодая красивая американка. Как откроется в дальнейшем (не сразу и не скоро), она приехала с мстительной акцией. Американка Лена (конечно, она русская) несколько лет назад была продана одним предприимчивым дельцом за рубеж, продана обманным образом, за обещание блистательной карьеры. В Москве она хочет найти этого «гада».

В главных ролях заняты Валентина Клягина, Вадим Захарченко, Юрий Куценко, Сергей Буньков.

**НА СНИМКЕ: кадр из фильма «Они сражались за Родину».**

ТОЛЬКІ ДЛЯ ЖАНЧЫН

# ЗРАБІ СЯБЕ ПРЫГОЖАЙ САМА

**Аксана ПЕНКРАТ, студэнтка факультэта журналістыкі.**

Некаторыя людзі гавораць, што не ў прыгажосці шчасце. Аднак для многіх жанчын прыгажосць — і душэўная, і фізічная — аснова для яго. Але не трэба сумаваць, калі ў вас не ідэальная фігура, або ёсць іншыя недахопы. Вы можаце самі зрабіць сябе прыгожымі, патрэбна толькі вельмі захацець і прыкласці крыху намаганняў.

Нават самая прыгожая жанчына будзе непрывабнай, калі ў яе недагледжана скура, а прычоска не да твару. І за скурай, і за валасамі патрэбен штодзённы догляд. Не бойцеся карыстацца крэмамі, маскамі, бальзамамі, але, галоўнае, такімі, якія вам падыходзяць. Толькі вось праблема — добрая касметыка патрабуе шмат грошай, а ад таннай прадукцыі сумніўнай вытворчасці можа здарыцца штосьці нядобрае.

Застаецца адзін выхад : карыстацца касметычнымі сродкамі ўласнага гатунку. Праўда, правільна іх зрабіць і выкарыстоўваць таксама трэба ўмець. Можна, магчыма, карыстацца парадамі касметолагаў, але не кожная мае для гэтага час і грошы. Да таго ж кожная можа паклапаціцца аб сваёй прыгажосці і сама, бо існуюць, так бы мовіць, універсальныя рэцэпты, ад якіх ніколі шкоды не бывае, толькі карысць.

Дык вось, у вас — перхаць. Лячыць яе можна і спецыяльным шампунем, і травамі. Найбольш просты спосаб — паласкаць валасы настоем з рамонку праз дзень на працягу месяца.

Рамонак можна замяніць крапівой, што настоена на растворы воцату з вадой, узятых у аднолькавых прапорцыях. Гэты рэцэпт ідэальна падыходзіць для сальных валасоў. Працэдуру праводзіць адзін раз у чатыры дні.

Догляд за скурай патрабуе большых намаганняў. Асаблівы клопат з ёю — зімой і вясной. І лепш за ўсё — раніцай. Каб абараніць скуру твару ад ветру, за 30 хвілін да выхаду на вуліцу памажце твар дзённым крэмам.

Каб скура нават пасля мыла заставалася пругкай і эластычнай, неабходна праціраць яе ласьёнам. Ласьёны з лекавых траў не толькі ачышчаюць скуру, але і танізуюць яе. Для прыгатавання такой «чароўнай» вады вазьміце па 20 грамаў сухога кропу і палявога хвашчу, па 10 грамаў крываўніку і дубовай кары, 10 грамаў 70-працэнтнага спірту. Травы заварыце кіпенем і кіпяціце 10 хвілін, пасля чаго дайце адстаяцца 20 хвілін, працадзіце і дадайце спірт.

Для сухой і адчувальнай скуры лепш за ўсё выкарыстоўваць ласьён з рамонкаў. Жменю сухой травы заліце стаканам кіпеню, настойце 10 хвілін і працадзіце. Скуру працірайце 2-3 разы ў дзень.

Вы хочаце быць прыгожай? Будзьце ёю!

ЭТО ЛЮБОПЫТНО

# «ДЕЛО» ПАСТЕРНАКА

Весной прошлого года в лондонском издательстве «Transworld» вышел в свет роман английского писателя А.Моллина «Ребенок Лары» («Lara's Child»), который является продолжением известного произведения Б.Пастернака «Доктор Живаго». Несмотря на то, что большинство критиков оценило роман как довольно посредственный, было распродано 150 тысяч экземпляров. Вскоре появился и немецкий вариант, выпущенный в Германии издательством «Bertelsmann».

Владелец прав на роман Б.Пастернака «Доктор Живаго» Карло Фетринелли, желая воспрепятствовать использованию основных персонажей романа без разрешения, подал в суд, однако трибунал Мангейма не нашел достаточных оснований, чтобы обвинить А.Моллина в плагиате.

**Татьяна КАЗАК, РИД, по сообщению «Le Monde».**

